ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№9 (18) верасень 2012 год

ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Кошт свабодны

# НАВУКА І РЭЛІГІЯ,

## або ў што вераць "няверні́кі"?



На здымку: кс. Мечыслаў Янчышын асвячае падручнікі ў глыбоцкім касцёле

**Аднойчы святар наведваў сваіх парафіянаў з пастырскім калядным візітам. У нейкай з кватэраў яго сустрэлі радасная жонка-каталічка і занепакоены муж-атэіст. "Я ўсё пра вас ведаю і ў Бога не веру! – замест прывітання паспяшаўся выпаліць ксяндзу гаспадар дома. – Я вучоны. А вашая вера – гэта ўсё казкі для цёмных людзей!.."**

■ **кс. Андрэй Рылка**, *тэкст;* **Іван Касевіч**, *фота*

У адказ святар звярнуўся з прапановай: "А раскажыце мне пра Бога, у якога вы не верыце". Гаспадар, збянтэжаны нечаканай просьбай святара, пачаў эмацыйна выказваць усё, што ён думае пра Бога і хрысціянства. Калі ён скончыў з яўным задавальненнем са сваіх "навуковых" аргументаў, то быў агаломшаны адказам святара: "Я таксама не веру ў бога. Я не веру ў таго бога, пра якога вы мне толькі што апавядалі. Давайце я вам раскажу пра Бога, у якога мы верым у Касцёле"... Так пачаўся шлях да веры аднаго з былых вучоных-атэістаў у Беларусі.

Нават па сённяшні дзень можна сустрэць у друку выказванні накшталт: "Юрый Гагарын паляцеў у космас і не знайшоў там Бога"; "Вучоныя не знайшлі пад зямлёй ніякага пекла" або "Вучоныя ведаюць, якую вагу мае чалавечая душа".

Гэтыя і падобныя выказванні папулярызаваліся не толькі савецкай бязбожнай прапагандай, але паўтараюцца і сучаснымі матэрыялістамі, якія ніяк не могуць змірыцца з тым, што большасць вучоных людзей – вернікі.

Часта хрысціяне, сустракаючыся ў сваім акружэнні з атэістамі, паддаюцца іх правакацыям і ўступаюць у бясплённую палеміку. Падобная памылка здараецца і тады, калі даводзіцца сустракацца з нападамі іншаверцаў. У католіка ўзнікае натуральная рэакцыя: калі нападаюць – трэба абараняцца. Гэтую абарону яны будуюць з апраўданняў і доказаў сваёй правільнасці. А пачынаць варта зусім з іншага. Перад тым, як пачаць расказваць іншай асобе пра сваю веру, неабходна задумацца, якое ўяўленне пра Бога і Касцёл мае ваш суразмоўца.

Калі католік зважае на ўяўленні іншага чалавека пра яго веру, то можа атрымацца цікавая і плённая размова. Тады, напрыклад, хрысціянін зможа растлумачыць атэісту, што Юрый Гагарын не сустрэў у космасе Бога, бо Той з'яўляецца нябачным і ўсюды прысутным Духам, на сустрэчу з якім не абавязкова ляцець у космас. А душу немагчыма ўзважыць па той прычыне, што яна духоўная, не матэрыяльная (толькі фізічная матэрыя мае вагу).

*Працяг на стар. 6*

## Увага! Падпіска!



**Дарагія сябры!**

Заахвочваем вас падпісацца на "Каталіцкі Веснік". Атрымліваць нашу газету праз пошту надзвычай зручна. Гэта – адзіны спосаб пачытаць выданне ў Брэсце, Мінску ці Гродне. **Кошт падпіскі на месяц – 2000 рублёў.** Аформіць падпіску можна ў любым аддзяленні "Белпошты".

**Наш падпісны індэкс – 63783.**

Дарагія браты і сёстры! Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. "Каталіцкі Веснік" таксама можа быць добрым падарункам вашым блізкім. Падпішыце на яго сваіх сяброў і падарыце ім Добрую Вестку!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

















# Прошча* да Унева


Споведзь на прывале

**Больш за 20 беларусаў прынялі ўдзел у пешым грэка-каталіцкім паломніцтве да Святаўспенскай Унеўскай лаўры (Украіна), дзе знаходзіцца цудадзейны абраз Маці Божай.**

**Ірына Грэйць**, *тэкст і фота*

Унеўская лаўра – гэта адзін з найвялікшых мужчынскіх манастыроў на заходняй частцы Украіны. Сваёй гісторыяй Унеў славіцца ўжо з XIV стагоддзя. Тады, як і ў наш час, манастыр быў вялікім духоўным цэнтрам.

Паломнікі рушылі 25 жніўня з царквы святога Арханёла Міхаіла, што знаходзіцца ў Львове. Больш за 1500 людзей ахвяравалі сваім часам, каб прыйсці да Маці Божай. Разам з украінцамі ішлі таксама госці са Славакіі, Расіі, Францыі, Польшчы.

На працягу трох дзён паломнікі разважалі над тэмай "Хрысціянская салідарнасць у веры, надзеі, любові". Ужо напачатку ўсе дапамагалі адно аднаму: дзяліліся ежай, вадой ды проста добрым словам, падносілі заплечнікі.

27 жніўня пілігрымка прыйшла да Унеўскай лаўры. Паломнікі прынялі ўдзел у начной Архірэйскай Літургіі на чале з Яго Блаславенствам Святаславам (Шаўчуком).

На саму ўрачыстасць прыехала шмат вернікаў з розных куткоў Украіны. Ужо з самага ранку 28 жніўня, у дзень Унебаўзяцця Багародзіцы, паломнікі маліліся Акафіст да Маці Божай. На ранішняй літургіі, разам з Уладыкам Васіліем, дапаможным біскупам Данецка-Харкаўскага экзархата, вернікі ўзносілі малітвы да Маці ўсяго свету.

За гэты кароткі час паломнікі духоўна ўзбагаціліся, атрымалі шмат новых уражанняў, знайшлі новых сяброў.

Прошча* (з украінскай мовы) – паломніцтва, пілігрымка.

Італія

# Новыя катакомбы



У маленькай вёсачцы Сан-Ларэнца дэ Бэфі, што ў Італіі, падчас землятрусу 2009-га года быў моцна пашкоджаны мясцовы касцёл. Выпадкова, калі ішлі ратаўнічыя працы, былі знойдзеныя старажытныя хрысціянскія катакомбы*.

Яны ўяўляюць сабой падземныя могілкі: своеасаблівы 30-ціметровы тунэль з пахаваннямі, які мае яшчэ два адгалінаванні. Навукоўцы сцвярджаюць, што могілкі датуюцца чацвёртым стагоддзем. Знаходка пацвярджае прысутнасць хрысціянскай супольнасці ў рэгіёне ў тыя часы.

*Паводле news.va*

**Даведка "Каталіцкага Весніка".**
*Катакомбы – падземныя могілкі, якія выкарыстоўваліся першымі хрысціянамі для пахавання памерлых, а таксама для патаемных сустрэч і малітваў падчас пераследу.

In memoriam

# Дзеля хвалы Божай



**Адышоў па вечную ўзнагароду да Госпада кардынал Каталіцкага Касцёла Карла Марыа Марціні. Ён належаў да ордэну езуітаў, быў арцыбіскупам Міланскім. Многія лічылі яго адной з найвыбітнейшых постацяў Касцёла ў Італіі і ва ўсім свеце. Кардынал быў вядомым тэолагам і біблеістам. Ён шмат гадоў пакутаваў на хваробу Паркінсона.**

Будучы іерарх нарадзіўся 25 лютага 1927 г. у Турыне. Пасля заканчэння езуіцкага Грамадскага інстытута ў 1944 г. уступіў у Таварыства Езуса. Святарскае пасвячэнне прыняў 13 ліпеня 1952 г., пасля чаго працягнуў вучобу ў Рыме і Турыне. У 1964 – 1969 гг. вёў навуковую і душпастырскую дзейнасць у Рыме. У 1969 – 1978 гг. быў рэктарам Папскага ўніверсітэта «Biblicum», а з 18 ліпеня 1978 г. – універсітэта «Gregorianum».

29 снежня 1979 г. папа Ян Павел II прызначыў яго арцыбіскупам Мітрапалітам Мілана і асабіста ўдзяліў біскупскую сакру 6 студзеня 1980 г. На кансісторыі 2 лютага 1983 г. арцыбіскуп Марціні быў уключаны ў склад Калегіі Кардыналаў*. У 1980 – 1983 гг. з'яўляўся членам Сакратарыяту Сіноду Біскупаў.

Цікава, што кардынал Марціні заўсёды быў адкрыты на дыялог з сучасным грамадствам і да нядаўняга часу меў прыватную рубрыку на старонках аднаго з самых папулярных свецкіх італьянскіх друкаваных выданняў "Corriere della sera". У газеце іерарх адказваў на пытанні чытачоў і шмат рабіў, каб мець з імі сталы і цікавы дыялог.

Пахаванне кардынала Карла Марыа Марціні адбылося 3 верасня. Святы Айцец Бэнэдыкт XVI напісаў спецыяльнае пасланне з гэтай нагоды, якое зачытаў яго прадстаўнік кардынал Анджэла Камастры. Ён між іншым зазначыў, што кардынал Карла Марыа Марціні "быў чалавекам Божым, які не толькі вывучаў Святое Пісанне, але і вельмі любіў яго, учыніў яго святлом свайго жыцця, каб усё было на большую хвалу Бога".

Абрад пахавання здзейсніў кардынал Анджэла Скола, цяперашні арцыбіскуп Мітрапаліт Мілана.

Агенцтвы навінаў перадаюць, што ў пахаванні прынялі ўдзел каля 20 тысяч чалавек. У той час як агульная колькасць тых, хто развітаўся з памерлым напярэдадні, дасягнула 200 тысяч чалавек. На жалобным набажэнстве, акрамя духавенства, прысутнічалі таксама прэм'ер-міністр Італіі Марыа Монці, чатыры міністры яго кабінета і былы прэм'ер Рамана Продзі.

Кардынал Карла Марыа Манціні быў пахаваны ў Міланскай катэдры пад крыжам св. Карла Барамэя – нябеснага заступніка горада Мілана.

***Даведка**
Калегія Кардыналаў – гэта дарадчы орган пры Папу, які выконвае абавязкі па кіраўніцтве Касцёлам пасля смерці Папы. Калегія кардыналаў таксама выбірае наступніка Папу на кансісторыі. Цяпер да Кардынальскай Калегіі належаць 206 кардыналаў, з якіх 118 маюць права ўдзельнічаць у выбарах Папы. 88 кардыналаў перасягнулі 80-гадовую ўзроставую мяжу.

Ватыкан

# Электрамабіль для Папы



**Вечарам 5 верасня Бэнэдыкт XVI атрымаў у дар два электрамабілі, выпушчаныя канцэрнам "Renault". Яны былі адмыслова распрацаваныя для патрэбаў Пантыфіка і Ватыканскай жандармерыі на базе мадэлі "Renault Kangoo Maxi".**

Перадаў іх Святому Айцу генеральны дырэктар французскага аўтаканцэрна Карлас Госн падчас свайго візіту ў Кастэль Гандольфа – летнюю рэзідэнцыю Рымскіх Пантыфікаў.

Электрамабіль, прызначаны для перамяшчэння Папы, пафарбаваны ў белы колер і змяшчае на дзвярах выяву герба Святога Айца. "Электрамабіль уяўляе сабой экалагічную версію папамабіля (...) і можа праехаць без дадатковай падзарадкі каля 170 км.", – гаворыцца ў спецыяльным паведамленні, апублікаваным 6 верасня. Другі электрамабіль, прызначаны для Ватыканскай жандармерыі, пафарбаваны ў блакітны колер з белай і жоўтай палосамі збоку.

Адзначаецца, што праз гэты дар Святому Айцу "Renault" працягвае свае намаганні па спрыянні ўстойліваму развіццю і падкрэслівае клопат пра навакольнае асяроддзе.

*Паводле vatican.by*

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Мы вельмі ўдзячныя ўсім, хто падтрымлівае газету сваімі ахвяраваннямі. Вы пра нас заўсёды памятаеце! Няхай добры Бог вас блаславіць, а Марыя, наша нябесная Заступніца, няспынна вамі апякуецца!

Кожную першую суботу месяца за ўсіх ахвярадаўцаў, супрацоўнікаў і аўтараў газеты адпраўляецца святая Імша. Гэтым разам свае ахвяраванні нам даслалі: **Аліцыя Трафімовіч** (г. Паставы), **Рэгіна Ракіцкая** (г. Браслаў), **Леанід Грыбач** (г. Гомель), **Станіслаў Вышадка** (в. Завараты, Глыбоцкі р-н), **Генавэфа Бартко** (в. Абруб, Глыбоцкі р-н), **Соф'я Машара** (г. Мёры).

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# Нататкі з кангрэса

**З 24 па 26 жніўня ў Гродне адбыўся Першы кангрэс каталіцкіх СМІ "Каталікі – мы тут ёсць". На форум сабралася каля ста журналістаў не толькі з Беларусі, але і з замежжа. Мне таксама пашчасціла прыняць удзел у яго працы.**

**Алена Пажога**

На адкрыцці кангрэса арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч падкрэсліў: ”Развіццё мас-медыя дало пачатак новай сацыяльнай прасторы, якая аказвае вялікі ўплыў на грамадства і культуру і нават здольная змяніць рэчаіснасць. Ад уплыву СМІ залежыць тое, як мы ўспрымаем саміх сябе, іншых людзей і свет. Таму іх неабходна прымаць пазітыўна і без прадузятасці, як вялікае багацце, нават калі і неабходна адносіцца да іх крытычна і ўжываць разумна і адказна.”

Іерарх назваў супрацоўнікаў медыяў лоцманамі, якія павінны паказаць людзям дарогу да Касцёла. Бо месца сустрэчы чалавека з Богам – гэта Касцёл. ”Ці будуць касцёлы напоўненыя і ці будуць нашы вернікі свядомымі, калі гэтыя лоцманы не ўмеюць, не могуць або не хочуць добра выконваць сваё заданне? Гэтае і падобныя пытанні стаяць перад намі, і на іх раней або пазней неабходна адказаць. Найлепей адказаць у час, бо яго ніхто не верне. Перасцярогай і адначасова заахвочваннем для нас у гэтым сэнсе з'яўляюцца словы св. апостала Паўла: «Гора мне, калі не абвяшчаю» (1 Кар 9, 16)”.

Уся праца кангрэса садзейнічала пошуку адказаў на пастаўленыя пытанні.

Да журналістаў праз відэапасланні звярнуліся старшыня Папскай рады па сродках масавай камунікацыі арцыбіскуп Клаўдыё Марыа Чэллі, дырэктар прэс-службы Апостальскай Сталіцы кс. Фэдэрыка Ламбардзі, прэс-сакратар епіскапату Польшчы кс. Юзаф Клёх. Быў зачытаны даклад а. Анджэя Капроўскага, праграмнага дырэктара Ватыканскага радыё.

Падчас майстар-класаў, якія правялі вядомы польскі кінарэжысёр Кшыштаф Занусі, кіраўнік хрысціянскага партала "Baznica.info" з Латвіі Павел Левушкан, рэдактар Рэлігійна-інфармацыйнай службы Украіны Алена Кулыгіна, таленавіты фатограф Іван Цыркуновіч, можна было атрымаць шмат цікавай і карыснай інфармацыі.

Удзельнікі круглых сталоў дзяліліся сваім набытым вопытам і абмяркоўвалі праблемы.

Тры дні праляцелі імгненна. Атмасфера была вельмі цёплая і добразычлівая. За што вялікі дзякуй арганізатарам і ўсім удзельнікам кангрэса. Думаю, што праца форуму была карыснай і плённай.

У выніку для сябе я склала такое "кіраўніцтва да дзеяння":

1. Журналіст-католік павінен адлюстроўваць усе аспекты жыцця чалавека згодна з каталіцкім навучаннем і не толькі даваць інфармацыю, але і дапамагаць фарміраванню асобы.
2. Глядзець на сябе ў святле праўды.
3. Гаварыць праўду, а не рабіць сенсацыю.
4. Не займацца прапагандай, а даваць сведчанне веры.




# Будапешт і масты

**Тры дні, якія кранулі кожнага да глыбіні душы… Тры дні, калі кожны задумаўся над тым, што для яго каштоўнае. Тры дні шчырай любові, сяброўства, міру і еднасці… Гэта першае, што прыходзіць на ўспамін, калі просяць распавесці пра Генфэст, які адбыўся ў Будапешце (Венгрыя) з 31 жніўня па 2 верасня.**

**Любоў Рубінава**, *тэкст;* **Сяргей Ламачэўскі**, *фота; catholic.by*

Сёлетняе свята моладзі, звязанае з рухам факаляраў, стала ўжо дзясятым, пачынаючы з 1973 года. Яно ўяўляе сабой сустрэчу моладзі з розных краін планеты, незалежна ад этнічнай, рэлігійнай ці культурнай прыналежнасці, светапогляду, узросту і сацыяльнага статусу.

Нарадзіўся Genfest дзякуючы ініцыятыве заснавальніцы руху факаляры К'яры Любіч. Яна паважала жыццё і прапанавала духоўны шлях, якім можа пайсці кожны, шлях, заснаваны на ідэалах усеагульнай любові, еднасці і глыбокіх братэрскіх адносінах паміж людзьмі.

У гэтым годзе месцам для сустрэчы больш за 12 тысяч удзельнікаў з усяго свету быў выбраны горад Будапешт. І невыпадкова дэвізам фестывалю стаў заклік «Let's bridge» – «Будуем масты», бо Будапешт – гэта якраз горад мастоў. А велічная рака Дунай як увасабленне вечнага няспыннага жыцця, праз якое мы «будуем масты». Масты зносін яднаюць нас, дазваляюць адчуць падтрымку, любоў і роўнасць з іншымі.

Беларусь на свяце прадставілі 30 чалавек з розных гарадоў. У першы дзень паводле праграмы праходзіла выстава краін Усходняй Еўропы, у тым ліку і Беларусі. Да нашай палаткі падыходзіла моладзь з іншых краін, пыталася ў нас пра асаблівасці беларускай прыроды, мовы, культуры, кухні і шмат пра што іншае. Юнакі і дзяўчаты каштавалі беларускі хлеб, яблыкі, квас, цукеркі, іншыя смачныя пачастункі, якія мы прывезлі з сабой з Мінска.

На другі дзень была арганізавана культурная праграма, падчас якой выступала моладзь з Венгрыі і іншых краін. Паміж нумарамі маладыя людзі распавядалі пра свае цяжкасці ў жыцці і пра тое, як вера ў Бога дапамагае пераадолець гэтыя цяжкасці, як яднае людзей паміж сабой для агульнага вырашэння праблем. Увечары адбылося шэсце на Ланцуговы мост па вуліцах горада. А на мосце мы зладзілі так званы флэшмоб, абменьваючыся рознакаляровымі шалікамі і голасна ўсклікаючы «Let's bridge!».

Завяршыўся Genfest на трэці дзень пасля таго, як у розных касцёлах і цэрквах – каталіцкай, рускай праваслаўнай, раманскай праваслаўнай, пратэстанцкай і лютэранскай, баптысцкай, англіканскай і іншых – былі праведзены літургіі і малітвы.

Будаваць масты – гэта вельмі нялёгкая справа. Яна патрабуе дбайнай і ўпартай працы, няспыннага ўдасканалення. Але самае галоўнае – зразумець, што будаўніцтва гэтых мастоў пачынаецца з кожнага чалавека асабіста, глыбока ў яго сэрцы.



Мінска-Магілёўская архідыяцэзія

# Кніжны кірмаш

**Урачыстае адкрыццё выставы-кірмашу хрысціянскай кнігі на плацы пры касцёле св. Сымона і Алены (г. Мінск, пл. Незалежнасці, 15) адбылося ранкам 8 верасня. Асвяціў выставу Генеральны вікарый Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі ксёндз-пралат Андрэй Стэцкевіч.**

Кніжны кірмаш адкрыўся ў межах Года кнігі, аб'яўленага сёлета ў Беларусі, і прымеркаваны да Года веры, які неўзабаве распачнецца ў Паўсюдным Касцёле.

На выставе былі прадстаўлены выдадзеныя хрысціянскімі выдавецтвамі Расіі і Беларусі найлепшыя кнігі, у ліку якіх – «Кампендый Катэхізіса Каталіцкага Касцёла», «Дакументы Другога Ватыканскага Сабора» і «Кампендый сацыяльнага вучэння».

Побач з кнігавыдаўцамі сваю прадукцыю рэпрэзентавалі і беларускія пчаляры. Разам з кнігай кожны ахвотны мог прыдбаць і збанок мёду.

Арганізатарамі выставы сталі Мінска-Магілёўская архідыяцэзія, парафія Святых Сымона і Алены і выдавецтва «Pro Christo».

*catholic.by*



Добрая Вестка ў тваім доме! Каталіцкі ВЕСНІК №9(18) верасень 2012 г.

# БЫЦЬ САПРАЎДНЫМ



**Вера ў Пана Бога мяняе жыццё чалавека. Адкрыўшы ў сабе прысутнасць Госпада, ён пачынае жыць іначай, становіцца "сапраўдным". Так думае Уладзімір Антонавіч Ермаловіч, чалавек, які пазнаў Хрыста ў 57 гадоў.**

*Гутарыла Ірына Грэйць*

**– Калі ласка, пару слоў пра тое жыццё, калі Вы не ведалі Бога.**

– Мая бабуля, маці, дзядзька-афіцэр - усе яны глыбока верылі ў Бога. Адразу я не заўважаў, чаго вартая іх вера. Маё жыццё без Бога было вельмі сумным. Я часта ўжываў нецэнзурныя словы, мой светапогляд быў іншым, не хрысціянскім. Толькі цяпер я ўспамінаю сваіх родных і іх веру. Асабліва маці, якая прымала ўдзел ва ўзнаўленні святыні ў в. Ула. Памятаю, як яна заўсёды казала рабіць мне знак крыжа. А бабуля, напрыклад, мяне змушала вучыць малітвы, ставіла ў вугал. Але, ведаеце, прыйсці да Пана Бога трэба самому.

**– Уладзімір Антонавіч, як Вы думаеце, чаму нам неабходна вера і малітва?**

– Апошнім часам я пачаў задумвацца над сутнасцю малітвы. Калі мне дрэнна, я пачынаю размову з Богам, вера дае мне невычарпальную сілу. Калі ў цябе ўзнікаюць праблемы, цяжкасці, адразу ідзі да Бога. Пасля малітвы ўсё атрымліваецца, твае жыццёвыя перашкоды знікаюць.

**– Раскажыце крыху аб прысутнасці Бога ў Вашым жыцці.**

– Літаральна год таму здарыўся са мной такі цуд. Быў вечар, ужо цямнела. Раптам перад маімі вачыма нешта заззяла. Я убачыў перад сабой абраз Маці Божай, які быццам ляцеў. А назаўтра раніцай заўважыў, што са сцяны зваліўся той абраз, які я бачыў увечары. Хтосьці падумае, што гэта ілюзія. Але я перакананы, што бачыў усё на свае вочы. Таксама нядаўна я купіў не той колер фарбы, які быў патрэбны. Перад тым, як памяняць яе, я памаліўся. І ў краме мне ўсё замянілі... Было шмат такіх жыццёвых гісторый. У іх я яскрава бачу, што Госпад ёсць у маім жыцці, і Ён дапамагае.

**– А якія планы ў Вас на будучае?**

– Самае галоўнае жаданне – абвянчацца з жонкай восенню ў касцёле. Таксама ў планах – зрабіць вялікую працу над сабой, удасканаліць сваё духоўнае жыццё. Усё гэта дапамагае чалавеку быць сапраўдным.

# З малітвай і натхненнем

**Супольная малітва і адпачынак у Лучайскай парафіі даўно сталі традыцыйнымі. Святочныя мерапрыемствы тут ладзяцца штомесяц, кожны раз напаўняючы сэрцы вернікаў самымі светлымі пачуццямі.**

**Іна Сняжкова**, *тэкст;*

**Андрэй Мацур, Альфрэд Мікус**, *фота*

2 верасня касцёл св. Юды Тадэвуша ў першую чаргу вітаў школьнікаў і студэнтаў, настаўнікаў і выхавальнікаў. На пачатку новага навучальнага і катэхетычнага года яны атрымалі Божае благаслаўленне.

Разам маліліся мясцовы ксёндз Мікалай Ліпскі, а таксама госці: ксёндз Раман Мурзіч з Параф'янава (Докшыцкі дэканат) і вікарый парафіі св. Антонія Падуанскага ў Віцебску, ураджэнец Пастаўскай зямлі ксёндз Антон Лагунёнак.

Урачыстую Прыміцыйную святую Імшу ўзначаліў кс. Антон Лагунёнак, які два тыдні таму атрымаў святарскае пасвячэнне з рук Апостальскага Нунцыя Арцыбіскупа Клаўдыё Гуджэроцці і паводле адмысловага дазволу Папы Бэнэдыкта XVI удзяліў Прыміцыйнае папскае благаслаўленне ўсім прысутным.

"Сёння ў Глыбокім урачыста адзначаюць Дзень пісьменства, – адзначыў ксёндз Мікалай Ліпскі. – Свята, калі ўшаноўваецца сапраўдны скарб чалавецтва – кніга. Усім нам трэба памятаць, што самае важнае ў жыцці кожнага хрысціяніна – Божае слова. Мы павінны не толькі слухаць яго падчас супольнай малітвы, але і штодня прымаць у свае сэрцы. Біблія – галоўная кніга нашага жыцця".

Важна, што, акрамя Божага благаслаўлення, школьнікі і студэнты атрымалі падарункі – канцтавары, купленыя па ініцыятыве парафіі. А пасля святочнай Імшы парафіян чакаў канцэрт вядомага мінскага гурта "Босае сонца" і слыннага беларускага кампазітара і выканаўцы Змітра Вайцюшкевіча.

Лідар «Босага сонца» Алесь Кот-Зайцаў (гітара, вакал) у суправаджэнні Рамана Лугавога (акардэон) праспяваў некалькі ўласных твораў, стыль якіх можна было б умоўна назваць музычным імпрэсіянізмам. Сярод іншых у арыгінале прагучала лірычная песня на верш польскага паэта Р. Ваячка.

У другім аддзяленні Зм. Вайцюшкевіч падарыў слухачам некалькі песняў на вершы мэтраў беларускай паэзіі – У. Караткевіча, Р. Барадуліна, У. Някляева, Л. Дранько-Майсюка. З асаблівай цеплынёй была ўспрынята шчымлівая песня пра маму з новага супольнага праекта Зм. Вайцюшкевіча і Г. Бураўкіна. Імправізаваны хор прысутных дружна падхапіў «Калыханку» В. Раінчыка і Г. Бураўкіна, а на развітанне прагучала традыцыйнае «Бывайце здаровы, жывіце багата».

Не абышлося і без песні «на біс». Ёю стала «Я нарадзіўся тут» з аднайменнага альбома. Зм. Вайцюшкевіч нязмушана вёў размову з публікай, жартаваў, прыгадваў цікавыя гісторыі і напрыканцы пакінуў у падарунак Лучайскай парафіі некалькі каштоўных аўдыядыскаў.



Гэты дзень запомніўся каталікам і яшчэ адной вельмі прыемнай падзеяй: у касцёле адкрылася вялікая фотавыстава. Яе галоўны герой – Лучай ва ўсёй сваёй духоўнай прыгажосці. Пастаўчанін Андрэй Мацур і мінчанін Альфрэд Мікус зафіксавалі на здымках найлепшыя моманты нядаўніх мерапрыемстваў парафіі: фэстаў у гонар св. Андрэя Баболі, св. Ганны, урачыстасці Першай Святой Камуніі, Крыжовага шляху ў Вялікую Пятніцу і іншае.

Пра высокі ўзровень выставы сведчыць той факт, што яе "бацькі" – прафесіяналы сваёй справы. Андрэй Мацур – старшыня пастаўскага фотаклуба "Светосила", аўтар шматлікіх персанальных і сааўтар калектыўных фотавыстаў. Альфрэд Мікус – удзельнік фотавыстаў у Беларусі, Расіі, Украіне, Латвіі, Германіі і іншых краінах, прызёр Тыдня славянскага мастацтва ў Берліне (2011), фіналіст конкурсу "Еўропа вачыма беларусаў" і шматлікіх іншых.

Людзі, касцёл, настрой, эмоцыі, перажыванні – усё гэта цесна пераплецена ў фотаздымках, якіх у касцёле размешчана 70. Выстава будзе знаходзіцца ў каталіцкай святыні да канца года. Магчымасцяў папоўніць яе ўдалымі кадрамі ёсць яшчэ шмат. Ужо 30 верасня тут адбудзецца новае мерапрыемства – свята Лучая. Галоўная мэта арганізатара – ксяндза Мікалая – падкрэсліць дату: 470-годдзе мястэчка. Станоўчыя эмоцыі, выдатны настрой і якасны канцэрт забяспечаныя.

**Запрашаем!**

Мосар

## Дзень ведаў

**Ва ўсіх касцёлах Беларусі на пачатку навучальнага года адбываецца малітва за тых, хто пазнае створаны Богам навакольны свет, самога Бога на занятках па рэлігіі непасрэдна ў касцёле, за тых, хто вывучае дакладныя навукі ў школе ці ва ўніверсітэце.**

**■ кс. Аляксей Юркайць**

### Асвячэнне

У нядзелю, 2 верасня, у Мосары пасля Святочнай Літургіі а 13-й гадзіне адбылося спецыяльнае благаслаўленне вучняў, студэнтаў і настаўнікаў, а таксама асвячэнне кніг і падручнікаў.

У пачатку навучальнага і катэхетычнага года варта было ўшанаваць кнігу, асабліва Святое Пісанне – Біблію. Бо Бог звяртаецца да нас, каб мы не заблукалі ў нашым вірлівым зямным жыцці, каб заўсёды маглі бачыць сэнс свайго існавання.

### "Скарбы вякоў"

Старажытныя кнігі маюць вялікую каштоўнасць, таму мы іх клапатліва зберагаем і захоўваем. Кожная добрая кніга мае вялікую вартасць. Ці памятаем мы пра гэта?.. Ацаніць вартасць кнігі і пераасэнсаваць яе ролю ў нашым жыцці на Дзень ведаў можна было ў Мосары.

Тут у Парафіяльным доме 1-2 верасня праходзіла выстава старажытных кніг XVII – XIX стагоддзяў "Скарбы вякоў", на якой былі прадстаўлены старыя метрычныя і літургічныя кнігі парафіі.

У гэтыя дні ў касцёле ладзіўся таксама кніжны кірмаш каталіцкіх выдавецтваў, на якім можна было набыць літаратуру хрысціянскай тэматыкі.

# Папа ў Беларусі

**У верасні Святы Айцец Бэнэдыкт XVI наведае Ліван. А як ставяцца хрысціяне Беларусі да візіту Папы ў нашу краіну?**

*Апытанне праводзіла* ***Ірына Грэйць***



**Яна Смаляр:**
– Прыезд Папы ў Беларусь – гэта вялікі крок беларускіх каталікоў наперад. Вельмі хочацца, каб Святы Айцец наведаў шмат парафій, памаліўся разам з намі. Таксама, думаю, прыезд Папы з'яўляецца своеасаблівым сведчаннем і сімвалам веры. Папа нясе нам Хрыста. Святы Айцец з'яўляецца праяўленнем Божай любові. У сваю чаргу, Бэнэдыкт XVI атрымае ласкі Духа Святога, каб несці Слова Божае ўсім беларусам. Думаю, што кожны хрысціянін з нецярпеннем чакае гэтай сустрэчы.



**Бр. Павел Лемех, OMI:**
– Прыезд Папы, першага з апосталаў, – гэта заўсёды ўмацаванне веры людзей. Такое спатканне беларусаў са Святым Айцом павінна адбыцца. Яго чакаюць усе хрысціяне. Асабліва я чакаю прыезду пантыфіка і малюся, каб ён наведаў Беларусь.



**Алёна Кузьміч:**
– На мой погляд, гэта была б вельмі вялікая падзея для Беларусі. Асабліва для вернікаў. Сваёй прысутнасцю Святы Айцец умацоўвае кожнага. Ён запальвае ў нашым сэрцы агеньчык чысціні і дабрыні, агеньчык пабожнасці.



**Святаслаў Пракаповіч:**
– Калі Папа прыедзе ў Беларусь, я б вельмі хацеў паслухаць, як ён сведчыць пра Хрыста, а таксама пра свой нялёгкі, складаны, але цікавы шлях на хвалу Госпада. Для духавенства Беларусі гэты візіт стане таксама незабыўным. Прыклад Папы ўмацуе святароў, каб яны і надалей неслі людзям Хрыста. Для нас, моладзі, прыезд Папы пакіне шмат уражанняў і эмоцый. Для пажылых людзей, якія доўга чакалі Папу, гэта падзея прынясе радасць і душэўны спакой.



**Аляксандар Шакур:**
– Прыезд Бэнэдыкта XVI у нашу дзяржаву мяне, маіх сяброў і ўсіх каталікоў краіны вельмі парадаваў бы. Мы б змаглі ўбачыць чалавека, які мае вялікую сувязь з Богам. Мне здаецца, што пасля візіту Папы ў Беларусь узрасла б колькасць хрысціян. Я б з задавальненнем паціснуў яму руку! Маё вялікае жаданне – папрысутнічаць на Святой Імшы з Папам, прыняць з Яго рук Хрыста.

# Волшебная Польша, волшебная Беларусь

**В августе 2012 г. стартовал проект «Волшебная Польша, волшебная Беларусь», в рамках которого волонтеры «Каритас» Витебской епархии отправились в Варшаву на встречу с волонтерами польского фонда «AVE». Мне посчастливилось провести эти две недели вместе с ними.**

**■ Дмитрий Шах**

Вначале домом на ближайшие несколько дней для нас стал небольшой уютный отель в центре поселка Ostrzyce. Рядом находилось огромное озеро и «коварная» река Радунь: на первых километрах спокойная и убаюкивающая, а далее резко меняющая свой нрав на противоположный. Именно с этой рекой на протяжении почти всей недели мы пытались «договорится» и установить «товарищеские» отношения с помощью байдарок.

Отдельно хочется остановиться на байдарках. Можно по-разному относиться к этому небольшому пластиковому плавсредству. Кто-то скажет: «Тоже мне корабль...». Очень трудно поверить, насколько сильно это крохотное судно сближает двух людей, которые до этого никогда не видели друг друга и живут в разных государствах. Почему-то вспомнились слова из песни Высоцкого про дружбу и горы: «...пусть он в связке одной с тобой – там поймешь, кто такой...». Байдарки сплотили беларуско-польские экипажи, равно как и совместные игры во время привалов на принятие пищи. И мне кажется, мы заговорили на одном языке...

Далее мы переместились в поселок Jastrzebia Góra на побережье Балтийского моря. Вряд ли найдётся желающий поспорить, что Балтийское море является одним из самых живописных мест в мире. С этим нельзя не согласиться...

Как приятно возвращаться домой, в Беларусь, да ещё и не одному, а с друзьями. В Браслав мы въехали, когда уже стемнело. Поэтому красоту своей природы город открыл нам только утром. Не только меня удивила бесконечная гладь чистейших Браславских озёр... Далее была экскурсия по достопримечательностям Браслава и посещение храмов. Три последующих дня провели «на вёслах» в уже привычных для всех байдарках. Правда, на этот раз мы наслаждались прелестью водной системы Беларуси. Наши реки оказались более приветливыми и спокойными, нежели своенравная Радунь.



В последние дни нашей встречи в Браславе состоялось торжество в честь Матери Божьей Королевы Озёр, в котором мы с удовольствием принимали участие и в совместной молитве просили заступничества Матери Божьей как для байдарочных походов, так и в самом сложном плавании под названием «жизнь». Плавание, в котором не всегда возле нас присутствует дружеское плечо, как это бывает в байдарке. Но как приятно осознавать, что у нас есть новые друзья и в Польше, и в Беларуси! В этом и есть основное волшебство нашей встречи.

# Да Маці Божай Браслаўскай

*О Маці Святая, Пані рэк і азёр,*
*Да цябе спявае пілігрымаў хор.*
*Дай трываць пры Богу,*
*Маткай будзь Ты нам,*
*Пакажы дарогу*
*Да нябесных брам.*

Гэта была цудоўная пілігрымка да Маці Божай Браслаўскай, ужо чацвёртая па ліку. А прайшлі мы пешшу амаль 80 кіламетраў за 3 дні. І хоць група была рознаўзроставай, але ўсе мы адчувалі сябе адной сям'ёй. Ішлі дружна, падтрымлівалі адно аднаго, маліліся і спявалі. Поспеху нашай вандроўкі (ніхто не стаміўся, не захварэў, не згубіўся) садзейнічала добра прадуманая і арганізаваная дзейнасць нашага пробашча. Кс. Андрэй па-бацькоўску клапаціўся пра нас. Мы вельмі ўдзячныя нашаму любімаму і паважанаму святару за клопат пра нас, за ўменне знайсці падыход да кожнага.

Яшчэ мы, пілігрымы, удзячныя ўсім добрым людзям, якія сустракалі нас па дарозе, ладзілі для нас пачастункі. Шчыра дзякуем святарам касцёлаў у Відзах і ў Далёкіх – ксяндзам Альфрэду і Андрэю.



Фота Кастуся Шыталя

У Браславе мы маліліся за ўсіх гаспадароў, якія прымалі нас на начлег. У Санктуарыі Маці Божай Браслаўскай атрымалі бласлаўленне біскупа Віцебскай дыяцэзіі Уладзіслава Бліна, удзельнічалі ў начной Святой Імшы і працэсіі са свечкамі. Многія засталіся ў касцёле, каб маліцца да раніцы. На галоўнай урачыстасці – Св. Імшы а 11-ай гадзіне дня – літургію ўзначаліў Апостальскі нунцый Клаўдыё Гуджэроцці. Прысутнічалі таксама госці з Амерыкі, Германіі, Польшчы, Расіі. Прыехала шмат вернікаў з усіх куточкаў Беларусі, каб ушанаваць нашу Маці.

Вельмі прыемна, што вядомыя асобы, госці адзначалі высокую свядомасць беларусаў, нашу веру і духоўнасць. Пазітыў, які мы атрымалі падчас пілігрымкі, надасць нам яшчэ больш сілы духоўнай, любові да Пана Бога і Маці Божай, а таксама любові адно да аднаго.

*З павагай і ўдзячнасцю,*
***Аліцыя Трафімовіч**.*
*Пастаўская парафія*

# Рэлігія ў школе

**Псіхолагі, сацыёлагі, публіцысты адзінадушна адзначаюць падзенне маралі ў асяроддзі маладога пакалення.**

**Людміла Асон**

Сталі незапатрабаванымі працоўная этыка, дысцыпліна, цнатлівасць, міласэрнасць і бескарыслівасць, змяніліся прыярытэты ў грамадстве. Наўрад ці ў цяперашняй моладзі станець ідэаламі партыйныя дзеячы і кіраўнікі. Гісторыя дала ўсім нам свае ўрокі. Дык хто ці што з'яўляецца аўтарытэтам для падлеткаў і моладзі? Мы падышлі да той чырвонай рыскі, што азначае адно: у грамадстве востры крызіс маральнага аўтарытэту, а яго вынік – маральная беднасць, змагацца з якой нашмат складаней, чым з беднасцю матэрыяльнай.

Вельмі важна, каб 17-гадовы чалавек меў выразныя маральныя прынцыпы, якіх будзе свядома прытрымлівацца. Школа – толькі частка грамадства, дзе педагог ад імя гэтага грамадства выконвае свае функцыі: трэніруе ў вучняў цела, душу і розум.

Але намаганняў школы недастаткова, каб дапамагчы дзіцяці зарыентавацца ў сучасных жыццёвых умовах, каб зберагчы яго ад такіх "набыткаў" цывілізацыі, як алкагалізм, наркаманія, прастытуцыя. Вось тут мы адчуваем вялікую патрэбу ў супрацоўніцтве з духоўнымі структурамі.

Сучаснае заканадаўства краіны дазваляе будаваць узаемаадносіны ўстановы адукацыі з гістарычна традыцыйнымі рэлігійнымі канфесіямі ў пытаннях выхавання маралі і духоўнасці ў дзяцей і моладзі. Тыя прынцыпы, асновай якіх з'яўляюцца Боскія запаведзі, павінны быць укладзены ў дзіцячыя сэрцы і душы, каб садзейнічаць развіццю ў чалавека яго маральнага пачатку. Хто будзе гэта рабіць?

Так, як "муляр гмахі муруе, а кравец шые ўбранне", і гэтай адукацыяй павінен займацца прафесіянал – святар або катэхет, што мае адпаведныя веды і падрыхтоўку. Але ні ў якім разе не слухач курсаў перападрыхтоўкі кадраў. І не трэба насцярожана ставіцца да таго, што яны прыйдуць у школу, дзе адукацыя свецкая. Гэтая гадзіна занятка не пройдзе дарэмна. Нават у тым сэнсе, што за гэты час наша "кветка жыцця" не скажа за вуглом бруднае слова, не пакурыць, не паб'ецца з аднакласнікам. Гэта я б назвала матэрыяльным бокам. А галоўным будзе зярнятка, пасеянае ў душы вучня.

Хацелася б закрануць і бацькоўскую адказнасць за такую адукацыю. У сям'і цікавяцца адзнакамі па школьных прадметах, дзе пахваляць за іх, дзе паўшчуваюць, але ўвогуле зрэагуюць. Дык чаму ж бацькі пускаюць на самацёк справу выхавання душы ўласнага дзіцяці? Дзеці будуць расці, бацькі – сталець і старэць. Якой будзе старасць: прыгожай і спакойнай? Або наперадзе – сацыяльны ложак у доме састарэлых, замест сыноўняй павагі і даччынай апекі і любові?

А прычына ў тым, што дзіця не жадала вучыцца шанаваць бацьку і маці, не забіваць, не красці, паважаць і любіць бліжняга, як самога сябе, дапамагаць бедным, спагадаць таму, хто трапіў у бяду. Бацькі ж пагадзіліся, што не патрэбна лішняя нагрузка. Урокаў і так шмат! Гэта ж не секцыя рукапашнага бою, не басейн, не музычная школа: тут яны не лічацца ні са сваім часам, ні з дадатковай нагрузкай на дзіця. Калі маме ці тату абыякава тое, што дзіця не хоча наведваць катэхезу, калі яны самі не маюць адпаведнай практыкі ў сям'і, не разумеюць неабходнасці катэхетычнай адукацыі, то што разумее ў гэтай сітуацыі дзіця? Яно ідзе па лініі найменшага супраціву. Любая вучоба складаная, патрабуе шмат працы над сабой. Працсей не пайсці, а бавіць час на двары. Тата з мамай павінны разумець, што інвестыцыі ў выхаванне ўласнага нашчадка – найлепшыя з усіх, бо забяспечаць стабільнасць сям'і, а адпаведна і грамадства, ячэйкай якога і з'яўляецца кожная сям'я.






# Навука і рэлігія, або ў што вераць "няврнікі"?

*Пачатак на стар.1*

Як савецкія, так і большасць сучасных атэістаў зусім не ведаюць сапраўднага каталіцкага веравучэння. Яны грунтуюць свае антыхрысціянскія "аргументы" на каляхрысціянскай міфалогіі або выдумках антыкаталіцкіх пісьменнікаў. Вядома, да гэтага кожны сучасны змагар з рэлігіяй дамалёўвае ўласныя фантасмагорыі. У выніку такі крытыкант хрысціянства пачынае ваяваць з барадатым дзедам на воблаку (іх уяўленне пра Бога) або імкнецца даказаць, што пад зямлёй няма вогненнай пячоры, дзе капытатыя чэрці вараць у смале грэшнікаў (іх уяўленне пра пекла).

Фактычна атрымліваецца так, што атэісты спачатку ствараюць нейкі вобраз хрысціянства, а пасля пачынаюць з ім ваяваць, галосячы на ўвесь свет, што так вераць католікі, праваслаўныя і інш. А на самай справе гэта звычайная выдумка зламыснікаў, няварта сур'ёзнай увагі. Шкада толькі, што паўтораная сотні разоў хлусня пачынае для многіх здавацца праўдай.

Як дапамагчы тым няшчасным людзям, якія мучаюць сябе змаганнямі з прыдуманым "Богам"? Адказ просты: прыйсці ў касцёл і запісацца на катэхезу (урокі рэлігіі). Гэта шанец адкрыць для сябе рэальны вобраз хрысціянства, вольны ад міфаў і выдумак. Верасень, пачатак навучальнага года – ідэальная пара для таго, каб запісацца на курсы, пачаць пазнаваць жывога Бога, сваю веру і навучыцца размаўляць з тымі, хто яшчэ блукае ў лабірынтах бязбожжа.

# Віртуальныя адносіны

**У наш час інтэрнэт з'яўляецца вельмі папулярным сродкам зносін. Часта сеціва – асноўны від камунікацыі паміж людзьмі. Тут можна напісаць паведамленне сябру, спытаць пра справы, дамовіцца аб сустрэчы, павіншаваць замежнага родзіча са святам. Ці сапраўды ўсё так проста ў падобных зносінах?**

**Людміла Нячай**, *псіхолаг*



Паглядзім на людзей, якія найбольш актыўныя камунікатары ў інтэрнэце. Бывае так, што ў сеціве ў іх заўсёды шмат сяброў, шмат паведамленняў у скрыні. Але, убачыўшы на вуліцы таго ці іншага сябра, не пачуеш у адказ нават кароткага: «Прывітанне». Такога чалавека рэдка заўважыш у гутарцы на двары або на працы.

У інтэрнэт-камунікацыі ёсць свае плюсы і мінусы. З аднаго боку, з дапамогай сацыяльных сетак, такіх, як "Аднакласнікі", "Facebook", чалавек можа вельмі лёгка знайсці сваіх знаёмых, з якімі па розных прычынах быў страчаны кантакт. Або нехта з сяброў на пэўны час выехаў жыць у іншы горад ці краіну. З дапамогай інтэрнэту сувязь можна лёгка падтрымліваць. З другога боку, такія зносіны ў эмацыянальным плане больш бедныя. Яны пазбаўленыя таго, што можна аб'яднаць псіхалагічным тэрмінам "невербальная камунікацыя". Гэтае паняцце ўключае ў сябе міміку, жэсты, пахі і г.д. Як кажуць псіхолагі, усё названае дае 80% інфармацыі пра чалавека.

Людзі часта выбіраюць інтэрнэт, таму што маюць цяжкасці пры размове ў рэальным жыцці. З дапамогай сацыяльных сетак чалавек можа паспяхова падтрымліваць свой пазітыўны вобраз, адчуваць сябе прынятым, паспяховым, пазбягаць крытыкі з іншага боку. Але, згаджаючыся толькі на інтэрнэт-камунікацыю, чалавек можа трапіць у псіхалагічныя пасткі такіх адносінаў, якія, на першы погляд, абяцаюць вялікія магчымасці.

## Лёгка, хутка, але небяспечна

Сеткавыя адносіны лёгка распачаць і лёгка скончыць. Не трэба хвалявацца пра тое, як ты выглядаеш, якое ўражанне пра цябе складзецца ў іншых. Узнікае ілюзія багатага эмацыянальнага жыцця, без праблем і недахопаў. У гэтай ілюзіі і ёсць небяспека. Справа ў тым, што пабудова і падтрымка рэальных адносінаў – гэта сапраўды праца, якая часта ад нас патрабуе сур'ёзных намаганняў. У інтэрнэт-адносінах можна над сабой не працаваць, а калі штосьці-небудзь не спадабаецца, проста закончыць гутарку. У выніку ў чалавека можа ўзнікнуць страх перад камунікаваннем у рэальным жыцці.

## Маскі сеціва

У інтэрнэт-камунікацыі чалавек можа праявіць свае акцёрскія здольнасці, прымяраючы розныя маскі "вельмі інтэлігентнага або багатага чалавека", "дзяўчыны незямной прыгажосці" і інш. Але ў такім выпадку можна вельмі лёгка згубіць сябе рэальнага. Настане той момант, калі давядзецца спаткацца з іншай сітуацыяй у жыцці. Тады выдуманы вобраз рассыплецца, як картачная хатка.

## Нерэальна ідэальны сябар

У чалавека ёсць патрэба ў шчырых, сапраўдных адносінах. Таму існуе пагроза таго, што ён свайго "інтэрнэт-сябра" пачне сам надзяляць няіснымі добрымі якасцямі, ідэалізаваць яго. І нават тое, як і што гаворыць "інтэрнэт-сябар", можа не мець вялікага значэння. Але жыць пастаянна ў свеце фантазій немагчыма. Рэчаіснасць можа стаць вялікім расчараваннем у адносінах з людзьмі, можа прывесці да дэпрэсіі.

Інтэрнэт-камунікацыя будзе добрай тады, калі яна ўмераная і не замяняе сяброўскія зносіны ў рэальным жыцці. Што можа быць лепшым за тое, каб з блізкімі і знаёмымі разам пашпацыраваць, схадзіць у кіно, тэатр, арганізаваць сумесны пікнік каля возера. Гэта вельмі карысна і для фізічнага здароўя, і для нармальнага развіцця розных формаў міжасобасных адносінаў, такіх, як сяброўства і каханне.

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**23 верасня 2012 г.** **Мк 9,30 – 37**

Шмат людзей, ідучы ў касцёл, задавальняе свае эмацыянальныя патрэбы. Напрыклад: знайсці сябе ў супольнасці, быць неабходным, не быць адзінокім, заняць чымсьці свой час, адчуваць сябе лепш. Аднак калі спыняемся на задавальненні эмацыянальных патрэбаў, мы становімся смешнымі і дробязнымі. Такімі, як апосталы, што спрачаліся, хто з іх найважнейшы. Супольнасць Касцёла нам патрэбная, каб выконваць Божую, а не сваю волю. Прыклад даў нам Езус. Ён узяў крыж, памёр і ўваскрос, бо такой была воля Айца. Вучань Езуса павінен шукаць выгоды не для сябе, а для "найменшых", бо гэта згодна з воляй Езуса, бо ў іх сэрцы – Бог.

*– Якія эмацыянальныя патрэбы задавальняю ў касцельнай супольнасці?*

*– З якімі пачуццямі "праабольшваю"?*

*– Ці не з'яўляюся эмацыянальным "праглотам": задавальняю сябе, не лічуся з іншымі, са здароўем Касцёла?*

*– Можа, хачу падключыць Пана Бога да сваіх прыемных планаў?*

*– Ці разважаю пра свае пачуцці з Панам Богам і з людзьмі?*

*– Ці бачу межы, дзе мае пачуцці перарастаюць у грэх і пажадлівасць?*

*– Ці назіраю за сваімі эмоцыямі і за тым, як яны ўплываюць на іншых?*

*– Ці ёсць у свеце маіх пачуццяў месца і час, каб паслухаць Пана Езуса?*

*– А можа, услухоўваюся толькі ў тое, у што мне хочацца або не хочацца?*

*– Ці гатовы сваімі пачуццямі і іх парадкаваннем служыць Богу ў іншых людзях?*

*– Ці змагу перапрацаваць свае пачуцці для дабра іншых?*

**30 верасня 2012 г.**

**Мк 9,38 – 43.45.47 – 48**

Справа Езуса – Яго Валадарства ў людскіх сэрцах. Гэта вельмі важная і неабходная справа. Езус прыйшоў абвясціць Божае Валадарства. Гэта Бог будуе ў людскіх сэрцах Сваё Валадарства. Хто дапамагае ў гэтай справе – дапамагае Богу. А хто перашкаджае – перашкаджае Богу. Вялікім злом ёсць знішчэнне ў сэрцах "малых" – дзяцей, убогіх, "навічкоў" у веры – таго, што там пабудаваў Бог. За такія ўчынкі Езус будзе судзіць. Будаванне Божага Валадарства ў нашых сэрцах вымагае рашучасці. Трэба адкінуць усё, што перашкаджае ўвайсці ў Божае жыццё. Прыведзеныя Езусам прыклады нельга разумець літаральна. Ён нас вучыць, што ў барацьбе са спакусамі трэба быць радыкальным і адназначным. Вынішчаць прычыны, а не толькі наступствы.

*– Ці з належнай пашанай стаўлюся да Божага жыцця ў сэрцы чалавека?*

*– Як дапамагаю Богу будаваць Божае Валадарства?*

*– Можа, кагосьці згоршыў?*

*– Можа, кагосьці адводжу ад веры?*

*– Што гавораць іншым пра Бога мае ўчынкі?*

*– Што гавару?*

*– Што выбіраю?*

*– Можа, адцягваю сваіх дзяцей ці знаёмых ад удзельніцтва ў Святой Імшы?*

*– Можа, з пагардай гавару пра рэлігійна руплівых людзей?*

*– Можа, забараняю дзецям маліцца?*

*– Або, можа, прымушаю працаваць у нядзелю?*

*– Можа, ганаруся сваімі грахамі?*

*– Можа, падрываю аўтарытэт Бога і Касцёла?*

*– Ці ведаю свае слабасці?*

*– Ці ўмею назваць найбольшыя свае спакусы?*

*– Ці ведаю, дзе іх прычыны?*

*– Ці змагаюся са спакусамі?*

*– А можа, шукаю спакусаў, каб патрапіць у грэх?*

*– Ці праяўляю рашучасць у барацьбе са спакусамі?*

*– Ці рэгулярна спавядаюся?*

*– Ці маю пастаяннага спаведніка і духоўнага настаўніка?*

**7 кастрычніка 2012 г.** **Мк 10,2 – 12**

Сужэнства – гэта справа сужэнцаў і Бога. Ён дапамагае будаваць сужэнскую еднасць. Ён не хоча, каб мы гэту еднасць разбуралі. Гэта Яго воля, бо Ён любіць нас і не хоча, каб мы крыўдзілі адно аднаго. Ён абараняе любоў, якую мы абяцалі адно аднаму. Хоча, каб мы любілі адно аднаго аж да смерці, каб кожны з сужэнцаў хацеў шчасця каханай і каханаму. Адказнасць у выбары сужэнца праяўляецца тады, калі мы робім гэты выбар згодна з Божай воляй, а не толькі з чалавечага разліку. А потым клапоцімся пра прысутнасць у сужэнстве Бога. Бо ў іншым выпадку адкуль узяць сілы, каб гэта сужэнства захаваць.

*– Ці адказна стаўлюся да выбару сужэнца (сужонкі)?*

*– Ці прыслухоўваюся, выбіраючы сужэнца (сужонку), да Божых парадаў, ці спадзяюся толькі на ўдачу?*

*– Ці малюся пра добры выбар жонкі, мужа для сябе, для дзяцей?*

*– Ці стаўлю на першае месца пры выбары сужонка яго адносіны да Пана Бога?*

*– Можа, толькі цешуся з таго, што ён не атэіст?*

*– Ці шукаю чалавека сапраўднай веры?*

*– Ці вучу дзяцей выбіраць сяброў?*

*– Ці малюся разам з жонкай, з мужам?*

*– Ці разумею, што толькі ў Богу ёсць сіла нашай любові?*

*– Ці практыкуе наша сям'я сапраўднае рэлігійнае жыццё?*

*– Ці сведчаць нашы размовы і словы, што Бог – наш настаўнік і Пан?*

**14 кастрычніка 2012 г.** **Мк 10,17 – 27**

Хрыстус – наш Збаўца. Вернасць Яго волі кліча нас да выканання Яго загадаў. Яны – гэта дарога справядлівасці і любові. Хрыстус ёсць крыніца і мэта нашага жыцця. Ён Бог, Які павінен займаць першае месца ў нашым жыцці. Усё, што хоча заняць гэта месца, што перашкаджае нам ісці за Езусам, трэба адкінуць. Прывязанасць да матэрыяльных даброт – вялікая спакуса. Матэрыяльныя даброты – гэта Божы дар. Але нельга іх абагаўляць, бо тады гэта блюзнерства.

*– У чым бачу сэнс свайго жыцця?*

*– Што з'яўляецца маёй радасцю і надзеяй: Хрыстус ці дробныя чалавечыя "бліскоткі"?*

*– Ці не пераацэньваю ролю матэрыяльных даброт і шчасця, якое яны даюць?*

*– Што гатовы адкінуць, каб выканаць Божую волю?*

*– Ці не жыву ў штодзённым клопаце аб прымнажэнні свайго багацця?*

*– Ці ёсць ува мне зайздрасць або хцівасць?*

*– Калі каму-небудзь штосьці-небудзь падарыў?*

*– Калі апошні раз дапамагаў убогім?*

*– Пра што мару?*

*– А можа, штучна аддзяляю духоўныя справы ад матэрыяльных?*

*– Ці дапускаю Пана Бога да сваіх матэрыяльных справаў?*

*– Ці размаўляю з Ім пра свае багацце?*

*– Ці дзякую Яму за тое, што атрымаў?*

*– Ці прашу ў Бога мудрасці ў матэрыяльных справах?*

Рубрыку вядзе
**кс. Павел Кнурэк**

# У пошуках Бога і бурштыну




**Цікава і змястоўна праводзяць час дзеці з парафіі Святой Марыі Магдалены ў г. Новалукомлі. Прымаючы актыўны ўдзел у жыцці Касцёла, яны вучацца паважаць традыцыі свайго народа, захоўваць духоўную спадчыну, чула адносіцца да бліжняга.**

**Зося Мацкевіч**

На працягу мая і чэрвеня падчас набажэнстваў для дзяцей было арганізавана своеасаблівае спаборніцтва на самага актыўнага ўдзельніка. Як радасна было бачыць маленькія сур'ёзныя тварыкі сярод дарослых і чуць тонкія галаскі ў агульных спевах! Але галоўнае, што дзеці прыходзілі амаль кожны дзень у касцёл. Іх душачкі напаўняліся Божым святлом і словам. Цікавым і карысным быў для хлопчыкаў і дзяўчынак удзел у вялікім свяце, прысвечаным апякунцы нашай парафіі Святой Марыі Магдалене. Яны таксама ўдзельнічалі ў працэсіях, якія праходзяць кожную першую нядзелю месяца.

Але самае незвычайнае чакала наперадзе. Сумесна з парафіяй Перамянення Панскага (г.Чашнікі) 6-15 жніўня была арганізаваная паездка ў Польшчу. Вось ужо дзе хапіла прыгод і ўражанняў!

Дзеці наведалі касцёлы Св. Андрэя Баболі і Св. Юзафа ў Гдыні, Св. Антонія – у Руме, прысутнічалі на Імшы, уважліва ўслухоўваліся ў Божае слова, што гучала на братняй польскай мове. Асаблівае ўражанне зрабіла наведванне Марыяцкага Касцёла Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гданьску. Дзецям дазволілі падняцца на самую вежу. А там між іншым – аж 409 прыступак! Але ці ж гэта перашкода для маленькіх пілігрымаў, калі ёсць магчымасць убачыць усё з вышыні птушынага палёту?

Яшчэ больш цікавым было наведванне Катэдры Аліўскай: удзел у Святой Імшы, непаўторная архітэктура сабора, стары бясконцы парк і, канечне ж, унікальны арган. Дзеці падняліся на хоры і паглядзелі, як яны сканструяваныя. Якім незвычайным і казачным было гучанне інструмента! Якая прыгажосць і веліч была і ў самой гэтай святыні! А потым хлопчыкі і дзяўчынкі не паспявалі за ўражаннямі: тут і акіянарыум, і парк юрскага перыяду, і планетарый, і аквапарк, і Цэнтр гульні, дзе, дарэчы, маленькія гарэзы правялі дзве з паловай гадзіны!

Апошні дзень быў праведзены ў Сопаце. Стомленыя, але вясёлыя і задаволеныя падарожнікі любаваліся морам, заходам сонца, блукалі па пляжы ў надзеі знайсці бурштын…

Пасля вяртання дадому бацькі і дзеці сабраліся для падвядзення вынікаў. Тут быў і прагляд слайдаў, і расповед пра свае вандраванні… А ў час "салодкага стала" ўручаліся прызы ў незвычайных намінацыях: самаму дысцыплінаванаму, самаму цярплівому, самаму ўважліваму... Нават была віктарына "Што ты запомніў?" Ніхто не застаўся без падарункаў.

Але галоўны падарунак – магчымасць убачыць свет, яго асаблівасць і непаўторнасць. Адчуць сябе часцінкай вялікай супольнасці, еднасці і моцы нашай веры, якая заўсёды будзе дапамагаць у падарожжы больш працяглым, чым гэтая вясёлая пілігрымка.

Бацькі і дзеці шчыра дзякуюць нашым святарам – кс. Аляксандру Барану і кс. Андрэю Бульчаку – за арганізацыю паездкі, за бацькоўскую апеку падчас падарожжа, за магчымасць прымаць удзел у набажэнствах, за цікавыя экскурсіі, за гасціннасць іх родных і сяброў. Няхай Пан Бог дасць ім трывалага здароўя, плёну ў дзейнасці, бадзёрасці духу і весялосці сэрца! Бо няма справы больш высакароднай, чым весці дзяцей шляхам дабрыні і Боскай любові.

## Рахунак сумлення

*Ў каторы раз я збілася з дарогі*
*У пошуках няведама чаго.*
*Граху павевы заманілі ногі,*
*Ад Бога адступаю для свайго.*

*Чым далей крочу, тым глыбей устраваю*
*У багну цемры, грэшнасці і зла.*
*Сваю мізэрнасць моцна адчуваю:*
*Без Бога радасці ўвогуле няма.*

*Шатан смяецца, на грахі натхняе,*
*Спакусы новыя мне пасылае зноў.*
*У страху гэткім дзень за днём мінае,*
*Але бясконца Божая любоў.*

*Толькі Хрыстос мне працягнуў далоні,*
*Сам Бог мяне ў спаведзі чакаў.*
*Адразу сэрца ўскалыхнулася ад волі,*
*Ад той, што Бог праз пакаянне даў.*

*Куды б мяне жыццё ні прывадзіла,*
*З малітвы кожны пачынаю дзень.*
*Упэўнена, што толькі ў Богу сіла!*
*І толькі з ім адступіць грэху цень!*

***Бажэна Цялега***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:**
рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога, Таццяна Смоткіна

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 7108

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2800 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 11.09.2012 г. у 17.41

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: katalickivesnik@gmail.com

ISSN 2224-9621




Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ